© PDF: Kamunikat.org 2019 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2019

Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

13 – 19 ЛІСТАПАДА 1998 ГОДА
ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ ЦАНА 6000 РУБЛЁЎ
№46 (186)

АДНА ЗЯМЛЯ

ВІЛЕЙКА

## Скаражонак у "Песнярах", а трое "землякоў" у ВНУ

Кіраўнік тэатра–студыі "Землякі" **Валерый Скаражонак** запрошаны ў ансамбль "Песняры".

Пасля канфлікту ў ансамблі **Уладзімір Мулявін** набірае новы склад. **Валерыю Дайнеку** і іншым былым таварышам Мулявіна па творчасці ўладамі забаронена выкарыстоўваць назву "Песняры".

А трое вілейчан, якія займаліся пры ГДК, сталі студэнтамі. Салістка тэатра–студыі "Землякі" **Аня Юрчык** паступіла ў інстытут культуры, **Юра Круглік** без экзаменаў трапіў у гэтую ж установу. А вось **Света Капцюг**, нягледзячы на тое, што выдатна спявала, стала студэнткай ветэрынарнай акадэміі.

*Марына ТАЧЫНСКАЯ.*

ІВЯНЕЦ

## "Месія" бліжэй да Івянца

Жыхары мястэчка першымі ў Беларусі мелі гонар паслухаць вядомы твор Генрыха Гендэля "Месія".

У адноўленым касцёле ён прагучаў у выкананні камернага аркестра "Санорус" з Мінска і камернага хору "Унтэрмайн" з Германіі. На наступны дзень "Месія" прагучала ў Белдзяржфілармоніі.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

МАЛАДЗЕЧНА

## "Спадарожнік" дзяцінства

Радыёзавод вярнуўся да сваёй ранейшай прадукцыі – цацкі "Закаці шарык".

Першыя партыі прадаюцца ў заводскай краме "Знаходка"; каштуе адзін выраб амаль 40 тысяч. Шарык плануецца распаўсюджваць па рэспубліцы, нават вывозіць у Расію.

Неўзабаве пакупнікі мусяць убачыць канструктар "Малыш" – таксама вытворчасці "Спадарожніка".

*Аддзел інфармацыі.*

АСТРАВЕЦ

## Цукар і масла па талонах

Здаецца, нядаўна прынята рашэнне, якое абмежавала продаж цукру і масла ў дзяржаўных крамах. Цяпер уведзеныя і талоны. Штомесяц можна купіць на аднаго чалавека кілаграм цукру і 300 грамаў масла. Падобнае нoваўвядзенне (добра забытае старое) тлумачаць тым, што вялікая колькасць тавараў вывозіцца ў Літву.

У гэтай сітуацыі даводзіцца чакаць талонаў і на іншыя прадукты харчавання.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

ВАЛОЖЫН

## Заўтра ў Пяршаях свята

Заўтра, у дзень работнікаў сельскай гаспадаркі і перапрацоўчай прамысловасці аграпрамысловага комплексу, на цэнтральнай сядзібе калгаса імя К. Маркса адбудзецца свята вёскі Пяршаі.

Тут падсумуюць вынікі работы за сельскагаспадарчы год, уручаць падарункі лепшым. Дапамогу ў правядзенні ўрачыстасці абяцаюць шэфы з Савецкага раёна сталіцы – гандаль, выступленні сталічных артыстаў, іншае.

*Уладзімір УЛАДЗІМІРАЎ.*

ВІЛЕЙКА

## Юрысты і настаўнікі

Сёлетнія выпускнікі школ абралі такія прафесіі (спіс даем па прэстыжнасці):

1. Юрыст, настаўнік
2. Эканаміст
3. Менеджэр, бухгалтар
4. Прадавец, швачка

Па адным выпускніку пайшло вучыцца на архіварыуса, святара, спецыяліста па міжнароднай эканоміцы.

*Марына ТАЧЫНСКАЯ.*

МІНСК

## Рост цэн утрая перавышае прадугледжаны ўрадам

Паводле папярэдніх дадзеных Міністэрства статыстыкі і аналізу Беларусі, аб'ём валавога ўнутранага прадукту, выраблена га ў краіне ў студзені-кастрычніку 1998 года, павялічыўся на 9% у параўнанні з аналагічным леташнім перыядам. Пры гэтым, калі аб'ём прамысловай прадукцыі ўзрос на 9,9%, то сельскагаспадарчай - знізіўся на 0,6%.

Спажывецкія цэны павялічыліся за кастрычнік на 21%. У выніку сярэднямесячны прырост цэн з пачатку 1998 года дасягнуў 6,3%. Гэта ўтрая з лішнім вышэй за тэмпы інфляцыі, прадугледжаныя на гэты год беларускім урадам.

*Сяргей СНЕГІН, БелаПАН.*

ДЗІКУНСТВА

## Пагром на могільніку



ФОТА М.ВЯНГРОЎСКАГА.

АСТРАВЕЦ. З вырванымі з магілак крыжамі, разбітымі помнікамі сутыкнуліся многія астраўчане, калі прыйшлі на магілы да сваіх блізкіх і родных. Падобнага вандалізму не чакаў ніхто. Ды і наогул, каб хто–небудзь у Астраўцы разбураў помнікі на магілах, не прыгадаюць нават людзі сталага ўзросту.

Пракуратурай Астравецкага раёна ўзбуджаная крымінальная справа, а праз непрацяглы час выяўленыя і затрыманыя ўдзельнікі гэтай жахлівай акцыі. Імі аказаліся непаўналетнія жыхары райцэнтра.

Пракурор **Валерый Працкайла** для "Рэгіянальнай газеты" сказаў, што злачынцы пашкодзілі 26 надмагільных помнікаў, з 11 магіл вырвалі крыжы. Разам з тым, спасылаючыся на тайну следства, ён не стаў гаварыць пра матывы здзейсненага злачынства. Зрабіць гэта можна будзе па заканчэнні справы. Ужо цяпер двое непаўналетніх знаходзяцца пад вартай.

Мужчына гадоў пяцідзесяці стаяў на могільніку ля разбітага помніка сваёй маці, плакаў і прыгаворваў:

– Няўжо ж ты, матачка, пры жыцці зрабіла каму–небудзь дрэнна, што і цяпер табе зласліўцы не даюць спакою?!

*Мар"ян ВЯНГРОЎСКІ.*

САНЭПІД ІНФАРМУЕ

## Бойся лесу ля Самалёў

МАЛАДЗЕЧНА. У першы тыдзень лістапада эпідэмічнае становішча з вострымі рэспіраторнымі захворваннямі заставался высокім, зарэгістравана 954 выпадкі.

Палепшылася сітуацыя з вострымі кішэчнымі інфекцыямі, за тыдзень адзначана 13 выпадкаў, з іх 11 па горадзе, у тым ліку, у дзіцячым садку №16 (2 выпадкі), №31 і СШ №№1, 5. Своечасова прынятыя меры дазволілі стабілізаваць сітуацыю з захворваемасцю на дызентэрыю ў дзіцячым садку №9.

Цяпер у дзіцячых садках не хапае сродкаў для мыцця і дэзінфекцыі.

У Палачанах зарэгістраваны яшчэ 1 выпадак сярод дарослых захворвання на вірусны гепатыт "А"- жаўтуху.

У Маладзечне ўстаноўлены выпадак падазрэння на захворванне Лайм–барэліёзам у школьніка. Хвароба вядзе да працяглай непрацаздольнасці, часам і да інваліднасці; выклікаецца мікраарганізмамі праз укусы іксодавых кляшчоў. Найбольш небяспечная лясная зона ў Маладзечанскім раёне па колькасці заражаных кляшчоў – лясы ля вёскі Самалі.

Пачынаецца Лайм–барэліёз з пачырванення і прыпухласці ўчастка скуры на месцы прысмоктвання кляшча. Зона пачырванення праз 3–32 дні хутка разрастаецца да 10–15 сантыметраў у дыяметры. У хворага назіраецца грыпападобны стан.

*Міхаіл ГРАБОЎСКІ, намеснік галоўнага ўрача РЦГіЭ.*

ЭКСПРЭС–АПЫТАННЕ МАЛАДЗЕЧАНЦАЎ

## Колькі чакаеце аўтобус?



*Святлана*



*Сяргей і Ксюша*



*Анжэла Чаброўская*



*Ала Сяргеева*



*Ларыса Сарокіна*



*Аляксандр Гармаза*

**Святлана:**

– Да работы я пешшу дабіраюся за 30 хвілін. З гэтага месяца вырашыла карыстацца маршрутным аўтобусам №4. Чакаю яго хвілін 40 (у адзін бок). Вывучыла ўжо графік руху. Тым не менш, цяжка падладзіцца, бо аўтобус часцяком ходзіць праз раз. А ўсё з-за маёй практычнасці - на месяц купіла праязны білет.

**Сяргей і Ксюша:**

– Нас аўтобусы не турбуюць. Мы яшчэ маленькія. Менавіта я, каб не спазніцца на мэблевую фабрыку, дзе працую, дабіраюся пешшу.

**Анжэла Чаброўская:**

– Найдаўжэй я чакала аўтобус летам. Дзеля прынцыпу. На прыпынак ля "Электрамодуля" прыйшла ў 21-50. А паехала ў 24-10. Асабліва крыўдна ў нядзелю. Прыязджаем з вёскі ў 9-30 і можам чакаць гадзіны. Лепш адразу крочыць дадому, у Вялікае Сяло.

**Ала Сяргеева:**

– Я даю ўрокі ў сярэдніх школах №№ 9, 3, 5. Жыву на "парашках". Поўнасцю спадзявацца на аўтобусы - гадзіны з 3 губляць на прыпынках. Галоўнае, каб аўтобусы хадзілі па раскладзе. Маладзечна не Мінск - можна наогул не дачакацца транспарту ці не сесці ў яго. А зімой выходзіць на прыпынак за 20-30 хвілін (калі прытрымлівацца графіка) - верагоднасць прыехаць на работу хворай і змучанай.

**Ларыса Сарокіна:**

– Вечарам губляю хвілін 40. Асабліва, калі трапляю ў перыяд з 18-30 да 19-30. Удзень чакаю 20-30 хвілін. Наогул, езджу 4 разы на дзень нумарамі 2, 7, 5. Апошнім часам у мяне паменшала скаргаў да аўтатранспартнікаў. Напрыклад, раніцой на 8-45 з вуліцы Я. Коласа на "двойку" саджуся без усялякіх праблемаў. Вось у суботу і нядзелю на рынак - не заехаць.

**Аляксандр Гармаза**, галоўны трэнер футбольнага клуба "Забудова":

– Жыву ў цэнтры. На стадыён ДЮСШ заўсёды дабіраюся пешшу. Паўгадзіны пакрочыць па свежым паветры - гэта задавальненне. Гарадскімі аўтобусамі не карыстаюся.

ТАКТ ТАА "Такт" рэалізуе:

- Запасныя часткі, вузлы і агрэгаты да сельгасмашын.
- Шкло аконнае, шкло ўзорыстае.
- Шыны да аўта– і сельгасмашын.

Склад знаходзіцца па адрасе: Смаргонь, зав. Камсамольскі, д. 3 (раён аўтавакзала). Час работы: з 8–00 да 17–00. Абед з 13–00 да 14–00.

**Тэл. у Смаргоні 33019, 22045, факс 21513.**

© PDF: Kamunikat.org 2019 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2019



СТАРЫ АЛЬБОМ



1946 год. Валожын. Работнікі ваенкамата. У першым радзе злева **Сямён Герасімавіч Уласенка**. У другім радзе злева афіцэр **Скварцоў**, які запомніўся тым, што мог на руках спусціцца з другога паверха на першы. Магчыма, нехта памятае людзей з гэтай фатаграфіі. Напішыце, калі ласка, у рэдакцыю.

ФОТА З АЛЬБОМА ВІКТАРА УЛАСЕНКІ.

## «Выхадны дзень» на «Кераміцы»



*У дзень "Белмастацкерамікі" Сяргей Кавалевіч уручае прыз (грашовую ўзнагароду) Уладзіміру Стасевічу.*

ФОТА З АРХІВА АНСАМБЛЯ.

РАДАШКОВІЧЫ. 10–гадовы юбілей адзначае ансамбль "Выхадны дзень", створаны пры ААТ "Белмастацкераміка". Без яго не абыходзіцца ні адно буйное мерапрыемства мястэчка.

– За гэтыя гады склад нашага ансамбля мяняўся – нехта прыходзіў, нехта пайшоў, – расказвае кіраўнік ансамбля **Сяргей Кавалевіч**.– Апошнія 5 год у калектыве **Сяргей Сцяпанаў, Міхаіл Дзятко**, вакалісткі **Жанна Багжаноўская і Тамара Дзерыпалава**. Усе яны працуюць на аб'яднанні.

– Вы карэнны жыхар Радашковічаў?

– Я з Маладзечна. Скончыў там музычную школу, музвучылішча. Пазней – інстытут культуры ў Мінску. У Радашковічы прыехаў працаваць. На "Кераміку" – мастацкагім кіраўніком. Атрымаў кватэру, жаніўся. Цяпер выкладаю ў школе мастацтваў па класе баяна. Па сумяшчальніцтве – арганізатарская работа на прадпрыемстве. Нягледзячы на недахоп часу, рэпетыцыі праводзім 2–3 разы на тыдзень.

– Самыя буйныя мерапрыемствы, якія праводзіць "Кераміка"?

– Гэта свята завода (у жніўні), таксама ўшаноўванне юбіляраў напярэдадні Новага года, 8 сакавіка, 9 мая. Мерапрыемствы суправаджаюцца конкурснымі праграмамі. Прыязджае духавы аркестр з Маладзечна. Заўсёды шмат гасцей, гледачоў.

– Чаму менавіта "Выхадны дзень"?

– Дае пачуццё чагосьці святочнага, небудзённага. Гэтае пачуццё падтрымлівае кіраўніцтва завода: нядаўна выдзелілі грошы на набыццё мікрафонаў, клавішаў...

*Надзея ЛІСАВА.*

КУЛЬТУРА

# След у беларускім мастацтве

***МАЛАДЗЕЧНА. У цэнтральнай бібліятэцы імя М. Багдановіча адкрылася выстаўка выяўленчага мастацтва, прысвечаная 50–годдзю мастака Юрыя Герасіменкі. Творчасць мясцовых мастакоў прадстаўленая зусім новымі работамі ці работамі аб жыцці, дзяцінстве, пошуках сябра. Выстаўка прадстаўнічая – Мікола Аўчыннікаў, Юрый Церабун, Рыгор Мяжуеў, Анатоль Акулік, Васіль Лазоўскі, Аляксандр Пашкевіч... Сваю работу выставіў адзін з сыноў Герасіменкі – Павел. Ён студэнт Акадэміі мастацтваў. Ягоны брат Андрэй, які гэтую ўстанову ўжо скончыў, на выстаўку прыехаў (жыве ў Мінску) разам з сынам Юрасём.***

– Бацька моцна ўплываў на нашую творчасць, – сказаў Андрэй, – ды і на іншых мастакоў таксама. У яго шмат вучняў, паслядоўнікаў.

Вось і вучаніца мастака **Алена Кучко** прадставіла графічную работу, створаную па парадзе Герасіменкі.

На адкрыцці выстаўкі прагучала многа цёплых слоў. У прыватнасці, мастак з Мінска **Пётр Васілеўскі** сказаў, што калі б Юрый зрабіў толькі ілюстрацыі да кнігі **В. Быкава** "Знак бяды", то і гэтага было б дастаткова, каб пакінуць след у беларускім мастацтве.

Мастак **Мікола Аўчыннікаў** адзначыў, што Герасіменка фарміраваў мастацкі асяродак горада. Старшыня гарвыканкома **Канстанцін Татарыновіч** распавёў пра ўдзел мастака ў распрацоўцы эмблемы горада, яго афармленні да 600–годдзя.

У той жа дзень адкрылася персанальная выстаўка Юрыя Герасіменкі ў музвучылішчы.

*Васіль САВІЦКІ,*
*Альберт АЎЧЫННІКАЎ.*



*Сын мастака Андрэй Герасіменка далучае маленькага Юрасіка да творчасці.*



*Выступае мастак Мікола Аўчыннікаў.*

ФОТА ВАСІЛЯ САВІЦКАГА.

## Было б 50

***МАЛАДЗЕЧНА. 9 лістапада мастаку–графіку Юрыю Герасіменку–Жызнеўскаму споўнілася б 50.***

Больш за год, як яго не стала. Здаецца, яшчэ ўчора мастака можна было сустрэць на выстаўцы, у вучэльні, дзе ён выкладаў, проста на вуліцы. Заўсёды крыху задуменнага, які вітае ў сваім мастацка–філасофскім свеце.

Парадокс: калі чалавек пакідае нас, абвострана адчуваеш яго значнасць, патрэбу ў ім. Гэта адчулі многія: родныя, калегі, прыхільнікі творчасці мастака,.які не любіў афішаваць тое добрае, што ён рабіў дзеля мастацтва. Нямногія, прыкладам, ведаюць, што менавіта ён садзейнічаў вяртанню з забыцця незаслужана забытых імёнаў.

На старонках "Рэгіянальнай газеты" быў змешчаны шэраг публікацый, прысвечаных жыццёваму і творчаму шляху мастака–графіка **Дзмітрыя Крачкоўскага**, які пасля цяжкіх выпрабаванняў лёсу жыў і працаваў у Маладзечне. Ён паходзіў з таго роду Крачкоўскіх, які падарыў беларускай культуры фалькларыста, этнографа **Юльяна Крачкоўскага**, які даводзіўся мастаку дзедам. І мала хто ведае, што вяртанне імя Дзмітрыя Крачкоўскага як мастака належыць Юрыю Герасіменку–Жызнеўскаму.

Менавіта яму ў свой час работы гэтага графіка перадаў краязнаўца **Генадзь Каханоўскі**, які добра разумеў, каму трэба перадаць гэты каштоўнейшы скарб, каб ён захаваўся і з часам з ім маглі пазнаёміцца аматары і знаўцы мастацтва.

Герасіменку–Жызнеўскаму давялося правесці вялікую рэстаўрацыйную работу па захаванні малюнку, паперы. Пазней графічныя аркушы ён перадаў у Нацыянальны мастацкі музей РБ, дзе неўзабаве была арганізаваная выстаўка твораў графікі двух маладзечанскіх мастакоў – **Ядвігі Раздзялоўскай** і Дзмітрыя Крачкоўскага. Пра яе шмат пісалі, гаварылі, паказвалі па тэлебачанні.

Напрыканцы той выстаўкі Юрый пашкадаваў у размове, што ў свой час не пазнаёміўся з Крачкоўскім асабіста і што мастак не дажыў да гэтай святочнай падзеі.

*Ірына ЗУБРЫЦКАЯ.*

КРАЯЗНАЎСТВА

# Нашчадак Міхала Клеафаса Агінскага

У апошнія гады Беларусь наведалі два нашчадкі Міхала Клеафаса Агінскага – браты **Іва і Андрэй Залускія.**

Дзякуючы іх дапамозе, у нас прыбаўляецца звестак і пра іншых прадстаўнікоў гэтага, не будзе памылкай сказаць, велізарнага роду (усяго сёння ў розных краінах свету жыве 35 нашчадкаў Агінскага). Напрыклад, у Кракаве жыве і паспяхова займаецца літаратурнай творчасцю праправўнук Міхала Клеафаса Агінскага – **Геранім Высоцкі**.

Для таго, каб пазнаёміць чытача з Геранімам Высоцкім, трэба, напэўна, перш за ўсё, растлумачыць, што ён вядзе свой радавод ад Эмы Агінскай (1809–1817), другой дачкі Міхала Клеафаса і яго другой жонкі, Марыі Нэры.

У 1844 годзе Эма выйшла замуж за прафесійнага мастака Антонія Высоцкага з Дагды і пасялілася з мужам у Кракаве. Гэта быў яе другі шлюб, ён аказаўся ўдалым, у адрозненне ад першага (першым мужам Эмы быў граф Іпаліт Бжастоўскі, сын старасты даўгоўскага і мсцібаўскага Ксаверыя Бжастоўскага), але атачэннем Эмы ён быў успрынятыя як мезальянс, і асабліва непрымірыма супраць яго выступала не хто іншы, як маці Эмы, сама дачка простага венецыянскага карчмара – Марыя Нэры.

Эма выхоўвала дваіх дзяцей ад першага шлюбу – дачку Гелену і сына Адама, а з А. Высоцкім яна мела яшчэ траіх – Міхала, Станіслава і Амелію. Сям'я жыла на заробкі Антонія Высоцкага, які, акрамя малявання, заняўся яшчэ і фатаграфіяй – новай у тыя часы справай. Усім дзецям Высоцкія пастараліся даць адукацыю. Сын Станіслаў (1850–1898), аднак, меў вялікую цягу да гаспадарання, і, ажаніўшыся з графіняй Соф'яй Залускай, стала асеў у маёнтку жонкі. Менавіта ён з'яўляецца дзедам Гераніма Высоцкага. У пачатку нашага стагоддзя жыццё Высоцкіх было цесна звязанае з Беларуссю.

Станіслаў Высоцкі і Соф'я Залуская мелі дваіх дзяцей – сыноў Генрыка ((1884–1969) і Станіслава (1882–1961). Генрык Высоцкі пасля смерці (у 1902 і 1909 гадах) прамых нашчадкаў Міхала Клеафаса Агінскага па мужчынскай лініі зрабіўся ўладальнікам маёнтка Агінскіх Залессе на Смаргоншчыне. Ён стаў уладальнікам гэтага маёнтка разам з іншымі прадстаўнікамі роду, але яшчэ да пачатку першай сусветнай вайны сплаціў ім іх долю спадчыны і застаўся паўнаўладным гаспадаром .



*Геранім Высоцкі з жонкай Вандай і ўнукам Міхалам.*

ФОТА З АРХІВА АЎТАРА.

Працяглыя франтавыя дзеянні першай сусветнай вайны прымусілі Генрыка Высоцкага прадаць маёнтак і выехаць да сваіх родных пад Кракаў. У сямейным архіве Высоцкіх, які сёння належыць Гераніму Высоцкаму, знаходзіцца шмат фінансавых і іншых дакументаў, якія датычаць Залесся пачатку веку.

Бацькам Гераніма Высоцкага быў старэйшы сын Станіслава, таксама Станіслаў (1882–1961). Вялікую частку свайго жыцця ён правёў у маёнтку бацькі Ясеніца паблізу польска–славацкай мяжы. Тут нарадзіліся і выхоўваліся і яго дзеці – сын і дачка. Геранім Высоцкі скончыў Вышэйшую Эканамічную школу ў Кракаве, большасць жыцця працаваў у Бюро навукова–тэхнічнай інфармацыі для прамысловасці, рэдагаваў розныя тэхнічныя тэксты з заходнееўрапейскіх часопісаў, цяпер на пенсіі, любіць спорт. Добра валодае нямецкай і французскай мовамі. Жонка яго – Ванда Дэскур – паходзіць з сям'і, продкі якой былі французы, і таму таксама добра ведае французскую мову. Адна з дачок Гераніма Высоцкага – выкладчыца французскай мовы ў адным з Кракаўскіх ліцэяў, другая – архітэктар у Варшаве. Растуць два ўнукі, аднаго з іх завуць Міхалам, несумненна, у гонар Міхала Клеафаса Агінскага.

Геранім Высоцкі надае вялікае значэнне гісторыі сваёй сям'і. Яму вядомыя разнастайныя крыніцы па гісторыі роду Агінскіх – такія, як дзённік дачкі Агінскага Амеліі, мемуары ўнучкі М. К Агінскага К. Берн, Залускага і іншыя, пакуль невядомыя ў нас. Адно з яго замілаванняў – корпацца ў велізарным сямейным архіве, праглядаць старыя лісты, рабіць выпіскі. На аснове такіх выпісак і паўстала першая кніга, прысвечаная роду Высоцкіх – "Расказалі старыя лісты" (Кракаў, 1986 г.), дзе аўтар падае гісторыю свайго роду, пачынаючы ад Міхала Клеафаса Агінскага і сям'і Антонія Высоцкага да нашых дзён. У кнізе апублікаваныя 6 невядомых дасюль лістоў М. К. Агінскага, напісаных з Фларэнцыі да яго дачкі Эмы, яскрава прасочваецца лёс іншых дзяцей Агінскага і іх нашчадкаў. Кніга багата забяспечаная фотаілюстрацыямі, якія ў многім з'яўляюцца для нас адкрыццём, бо ўпершыню на Беларусі мы змаглі ўбачыць партрэты Марыі Нэры (пэндзля мастака Малінары), трох дачок і сына М. К. Агінскага, яго некаторых унукаў, а таксама мастацкія творы Антонія Высоцкага і яго дачкі, адоранай мастачкі.

Цяпер Геранім Высоцкі заканчвае яшчэ адну кнігу, якая, як і папярэдняя, узнікае на аснове аналізу лістоў з сямейнага архіва. Гаворка ў ёй пойдзе пра дзяцінства Гераніма Высоцкага. Геранім Высоцкі паабяцаў прыслаць у хуткім часе фрагменты гэтай кнігі. Перапісвацца з панам Высоцкім вельмі прыемна, ён вельмі ўважлівы і непрадузяты карэспандэнт, гатовы шчодра дзяліцца сваімі ведамі. Хочацца запрасіць яго ў Беларусь, і я мяркую, гэта калі–небудзь адбудзецца.

*Таццяна КЛЯШЧОНАК, Смаргонь.*

© PDF: Kamunikat.org 2019 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2019



КАЛЕЙДАСКОП ТЫДНЯ

# Пакуль не стукнулі маразы



*ВІЛЕЙКА. Мінулы тыдзень быў адзначаны тым, што кіраўніку ўзорнага духавога аркестра Фёдару Гуру за значны асабісты ўклад у развіццё беларускай культуры старшынёй гарвыканкома Пятром Юдо была ўручана прэмія Савета Міністраў. Напярэдадні музыкант атрымаў памятны знак Міністэрства культуры. Апошні час гэты аркестр становіцца ўсё больш папулярны, і не толькі ў Вілейцы.*



*На сумленні начальніка інспекцыі выпраўленчых работ Алега Чарняўскага і намесніка начальніка аддзялення грамадскай бяспекі Вілейскага ГРАУС Валерыя Яхімовіча была ахова правапарадку у час ускладання кветак да помніка Леніну 7 лістапада. У дзень першага снегу. У застойныя часы, па прызнанню міліцыянераў, на такую работу выходзіла паўаддзела. Цяпер толькі двое. Затое афіцэры.*



*У будынку былога камісійнага магазіна каля выхаду з гарадскога парка ў хуткім часе справіць наваселле ЗАГС. Тут будзе ўсё для ўрачыстай рэгістрацыі новванароджаных, шлюбаў маладых пар. Пакуль жа ў апошнія пагодныя дзянькі муляры стараюцца паспець выкласці цэглу на парадным уваходзе ў гэтую ўстанову.*

ФОТА ІГАРА МАРОЗА.

ЗДАРЭННІ

## Прыгоды "чырвонага пеўня"

ВІЛЕЙКА. Трывожным быў кастрычнік для пажарных раёна.

У вёсцы Навіны Яршэвіцкага сельсавета агонь забраў ажно тры жыцці. Да трагедыі прывяло курэнне ў пасцелі п'янага гаспадара дома Трацдяка.

А напрыканцы кастрычніка "чырвоны певень" гуляў у вёсцы Седлішча Забрэзскага сельсавета. Згарэла сенасховішча, у якім знаходзілася каля 90 тон сена. Пры аглядзе месца пажару быў выяўлены шкілет чалавека. Па абгарэлых шматках адзення і паказаннях сведкаў змаглі апазнаць 25–гадовага М. Нядзельку, які з кастрычніка 1996 года адбываў пакаранне ў Валожынскай спецкамендатуры.

***Уладзімір УЛАДЗІМІРАЎ.***

## Кансервы на дарогах

ВІЛЕЙКА. Ля вёскі Журыхі вадзіцель фуры, каб не наехаць на пешахода, які раптоўна ўзнік ў цемры, рэзка звярнуў убок. Фура, у якой везлі з Украіны кансервы ў слоіках, перакулілася. 30 працэнтаў грузу пабілася.

***Марына ТАЧЫНСКАЯ.***

## Удар па нырках

ВІЛЕЙКА. 35–гадовая жанчына з Даўгінаўскага сельсавета вырашыла атруціцца.

Ужыла хімікат "Каратэ". Аднак урачы жанчыну выратавалі.

***Алена ІРЫСАВА.***

## Спірт застанецца ў нас

АСТРАВЕЦ. Паблізу ад вёскі Бабічы пагранічнікі мясцовай пагранкамендатуры затрымалі аўтамабіль "ГАЗ–66" без нумарных знакаў, які накіроўваўся ляснымі дарогамі ў Літву.

У кузаве аўтамабіля яны знайшлі бітоны са спіртам. "Стратэгічнага" прадукту аказалася больш за тры тоны. Два літоўцы–уладальнікі тавару і спірт затрыманыя.

***Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.***

БАЗАРНЫ ДЗЕНЬ

**МАЛАДЗЕЧНА.** Цэны на прадукты харчавання ў сераду на рынку:

| ПРАДУКТЫ | | ЦАНА (ТЫС. РУБ.) 4.11 | 11.11 |
|---|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі | 1 кг | 231 | **230** |
| Кілбаса сыравэндж. | 1 кг | – | – |
| Сасіскі свіныя | 1 кг | 151,8 | **151** |
| Селядзец | 1 кг | 200 | **194** |
| Рыс | 1 кг | 115 | **115** |
| Цукар | 1 кг | 70 | **75** |
| Грэчка | 1 кг | 95 | **92** |
| Алей | 1 л | 180 | **170** |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | – | **38** |
| Маянэз | 250 г | 50 | **45** |
| Кава "Пеле" | 100 г | 220 | **220** |
| Шпроты, бляшанка | 160 г | 60 | **70** |
| Соус там. «Красн.» | 0,5 л | 65 | **65** |
| Лімоны | 1кг | 198 | **235** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | | |
| Смятана | 1 л | 60 | **60** |
| Масла | 1 кг | 160 | **160** |
| Тварог | 1 кг | 60 | **100** |
| Малако | 1,5 л | 16 | **30** |
| Бульба | 1 вядро | 75 | **80** |
| Яйкі курыныя | 1дзес. | – | – |

## Мажэйкаўскі "Панскі дом" і гарадзенская "Полька" – падрываюць эканоміку Літвы

АСТРАВЕЦ. У мясцовым райспажыўтаварыстве сцвярджаюць, што за восем месяцаў толькі ў крамах было куплена гарэлкі на суму больш за 45 мільярдаў рублёў. Куды больш інтрыгоўна гэтая лічба выглядае ў параўнанні з такім жа перыядам мінулага года, калі гарэлкі было прададзена на суму крыху больш за 15 мільярдаў рублёў.

Нават калі ўлічыць, што на той момант бутэлька саракаградуснай "цягнула" на 40–50 тысяч рублёў супраць цяперашніх 80-100, то атрымліваецца, што жыхары Астравеччыны пачалі піць (ці проста купляць?) гарэлкі ў тры разы больш.

Пры цяперашнім жыцці не дзіўна, што людзі заспакаенне шукаюць менавіта ў бутэльцы. Ёсць і іншая прычына з'явы. З улікам блізкай мяжы з Літвой, дзе самая нізкая цана на гарэлку эквівалентная чатыром "зялёным", беларуская гарэлка пішчом лезе туды. У райспажыўтаварыстве сёння з праблемамі закупляюць гарэлку на Гродзенскім лікёра–гарэлачным заводзе. Падобнае адбываецца з тае прычыны, што завод адпускае гарэлку толькі ў абмен на пустую шклотару. Паколькі гарэлку вывозяць за межы краіны, то пустыя бутэлькі сюды не прывозіць ніхто.

Вазіць гарэлку ў суседнюю дзяржаву выгадна як ні адзін іншы прадукт. Сваім спосабам бізнесу на стратэгічным прадукце падзялілася, хаця і не вельмі ахвотна, знаёмая. Прыгарадным цягнікам Гудагай–Вільнюс разы з тры, а то і чатыры на тыдзень яна ездзіць у літоўскую сталіцу. З сабой бярэ не больш за дзесяць бутэлек і тое–сёе з прадуктаў. Апошнім часам праехаць мяжу стала не вельмі проста, бо літоўскія памежнікі і мытнікі прыдзірліва ставяцца да беларусаў. Выхад знаёмая знаходзіць проста – перад памежным кантролем яна большую частку гарэлкі раздае пасажырам вагона, а калі праверка дакументаў завершаная, то збірае назад. У Вільні ж ёсць знаёмыя, якія закупляюць гарэлку оптам. Бутэлька мажэйкаўскага "Панскага дома" ці гродзенскай "Полькі" ацэньваецца ў 8–9 літаў. Больш нізкай якасці настойкі і брэндзі купляюць па 6–7 літаў. Можна, вядома, прадаваць на вуліцах прахожым па 10 і нават 12 літаў, але ёсць вялікая рызыка трапіць у рукі паліцыі, дзе давядзецца выкласці каля 2 тысяч літаў. Прадаваць оптам найбольш бяспечна. Каб не ехаць назад з пустымі рукамі, гарэлачныя "чаўнакі" затаварваюцца алеем. У Літве ён каштуе крыху больш за долар. У сярэднім штомесяц знаёмая мае каля 150 долараў чыстага прыбытку. Натуральна, дзеля такога «навару» сёння можна рызыкаваць.

Зарабляць грошы на гарэлцы можна і без рызыкі. Калі везці толькі дзве бутэлькі, то атрымаеш чыстага прыбытку 300 тысяч рублёў. За дзень у Літву з Астраўца на цягніку можна з'ездзіць (было б жаданне) і два разы.

***Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.***

НЯВЫДУМАНЫЯ ГІСТОРЫІ

## Пра грошы

***ВІЛЕЙКА. Гэтую гісторыю мне расказалі дзве старыя жанчыны з вёскі Муляры. Я вёз іх на пахаванне як галасільшчыц (тыя, што прычытаюць па нябожчыку). Таму гаворка ішла пра пахаванне і нябожчыкаў.***

Паміж Мулярамі і Золькамі ёсць старыя салдацкія могілкі. Тут хавалі загінуўшых у І–ю Сусветную вайну, бо ў гэтых мясцінах доўгі час стаяў фронт. Адной жанчыне з Муляроў з фронту прывезлі забітага мужа. Яе хата згарэла ў час артылерыйскага абстрэлу, таму яго пахавалі нават не пераапрануўшы. У гэтую ж ноч жонка прысніла мужа. Той скардзіўся, што яна пахавала яго непераапранутым. На раніцу жанчына з вяскоўцамі выкапала труну. Калі мужчыну распраналі, у чаравіках знайшлі грошы. Іх хапіла і на новую вопратку, і на памінкі.

Мінула больш за 80 гадоў. Гэтыя могільнікі даўно закінутыя. Але час ад часу вяскоўцы знаходзяць свежаразрытыя магілы. Хіба пасля гэтага артыкула скарбашукальнікі зразумеюць, што ўсе грошы ўжо знойдзеныя.

***Ігар КІЦІКАЎ.***

## Пра ваду

Гэтая гісторыя пераклікаецца з даўнішнім артыкулам "Ахвяры СД" у "Рэгіянальнай газеце". Расказаў яе сын жанчыны, якая была сведкай гэтай падзеі.

У 1942 годзе ноччу праз Даўгінава гналі калону яўрэяў. Жыхары вёскі праз вокны крадком назіралі гэтае сумнае відовішча.

Раніцой, калі вяскоўцы пацягнуліся да калодзежа па ваду, убачылі на плоце пінжак. Адзін мужык вырашыў праверыць у ім кішэні. У іх ляжала мноства залатых пярсцёнкаў, завушніц, ланцужкоў і манет. Тады людзі ўспомнілі мужчыну з калоны, які, сунуўшы аўтаматчыку нешта ў руку, падбег да калодзежа папіць вады.

Яўрэі ўжо ведалі, што іх вядуць на расстрэл, таму, каб каштоўнасці не дасталіся карнікам, схавалі іх такім спосабам.

***Ігар КІЦІКАЎ.***

ВАЛОЖЫН

## Яшчэ раз пра радыяцыю

Вядучыя медыкі рэспублікі на чале са старшынёй рэспубліканскага фонда "Дзеці Чарнобыля" **Тамарай Белавокай** пачалі абследаванне жыхароў з месцаў, забруджаных радыяцыяй.

Абследаванне праводзіцца па выхадных – бясплатна і з выкарыстаннем сучаснай апаратуры. Медыкамі пройдзены Пяршайскі сельсавет. На чарзе вёскі Камень, Сівіца, Доры.

***Наталля ШТЭЙНЕР.***

## Каратысты–дашкольнікі

ВАЛОЖЫН. 15 год сёння дзіцячаму садку №6, што ў жылым мікрараёне "Райаграпрамтэхніка".

У спартыўнай зале садка нядаўна пачала працаваць секцыя каратэ. Асновам гэтага віду спорту навучае дзяцей трэнер **Уладзімір Воўкаў**.

Фарміруецца другая група, у якой хлопчыкі і дзяўчынкі атрымаюць магчымасць навучыцца спартыўным танцам, рытміцы. Заняткі ў ёй даручана весці выкладчыцы фізвыхавання садка **Наталлі Зарубежнавай**.

***Уладзімір УЛАДЗІМІРАЎ.***

